# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.baza-belarus.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 5 (555)
Травень 2012 г.


# Чарнобыльскі мітынг каля штаб-кватэры ААН

Насупраць штаб-кватэры ААН на Першай Авэню 28-га красавіка прайшоў мітынг, ладжаны Згуртаваньнем "Пагоня", які быў прысьвечаны 26-й гадавіне Чарнобыльскай трагедыі. Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня "Пагоні" Віталь Зайка. Ён распавёў пра падзеі красавіка-траўня 1986 году ў Беларусі падчас аварыі на Чарнобыльскай АЭС і пра імкненьне савецкіх уладаў у Беларусі схаваць трагедыю, замоўчаць яе маштабы і нават адмовіцца ад дапамогі пацярпеламу беларускаму насельніцтву. Далей прамоўца спыніўся на палітыцы рэжыму Лукашэнкі ў дачыненьні да жыхароў пацярпелых ад радыяцыі раёнаў, на адмене ільготаў для ліквідатараў аварыі і на шэрагу фактаў, якія паказваюць, што стан здароўя насельніцтва ў Беларусі застаецца трывожным. Насьцярожвае таксама вынесенае без належнага грамадзкага абмеркаваньня і празрыстасьці рашэньне пра будову АЭС у Астравецкім раёне. Арыентацыя на Расею ў кантрактах па АЭС яшчэ глыбей засмокча Беларусь у залежнасьць ад Расеі, а сумніўная вартасьць расейскіх тэхналёгіяў паставіць пад пагрозу будучыню ўсёй краіны.

Затым пра канкрэтны прыклад наступстваў Чарнобыля ў Беларусі распавёў сп. Кірыл Ермакоў. Прысутныя пачулі гісторыю ягонага бацькі, які пасьля аварыі займеў праблему з шчытападобнай залозай, якая павялічылася ў 10 разоў. Ён меў шэраг апэрацыяў, і ў выніку яму цалкам выдалілі залозу, пакінуўшы арганізм без імуннай абароны.

Прысутныя выказалі салідарнасьць з жыхарамі Беларусі, што дасюль жывуць на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях, і заявілі свой пратэст супраць дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі, хаваньне праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі пра стан справаў, зьвязаных з радыяцыяй і атамнай энэргетыкай у Беларусі.

Напрыканцы прысутныя засьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і "Пагоню" на словы М. Багдановіча.

***Віталь ЗАЙКА***



Здымак С. Асаёнак.

# Красавіцкі сход Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

У суботу, 14-га красавіка, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся красавіцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу сп. Віталь Зайка, старшыня “Пагоні”, даў кароткі агляд апошніх падзеяў, зьвязаных зь Беларусьсю.

Затым Мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы Ўладыка Юры (Рыжы) павіншаваў прысутных з надыходзячым сьвятам Вялікадня і адзначыў, што Вялікдзень, як найвялікшае рэлігійнае сьвята, заўсёды зьвязваўся са спадзяваньнямі на лепшую будучыню для народу і на адраджэньне Бацькаўшчыны. Таму важна сёньня памятаць пра Беларусь, беларускую мову і культуру.



*Віталь Самсонаў, Віталь Пашкевіч, Станіслаў Змачынскі.*

Пасьля гэтага прайшла тэматычная частка сходу – гутарка, прысьвечаная пытаньням наладжваньня бізнэсу і прафэсійнай кар’еры ў ЗША. У якасьці экспэртаў у гэтай гутарцы выступілі прадпрымальнік Віталь Самсонаў, фінансіст Віталь Пашкевіч (Блюмбэрг Прафэшанал Сэрвіс) і бугальтар Стас Змачынскі (Прайс Ўотаргаўс Купэрс). Гутарку падрыхтаваў і мадэраваў сябар управы “Пагоні” Яўген Барысевіч. Гутарка прайшла ў форме адказаў на пытаньні, якія ставіў ўсім тром экспэртам мадэратар. Напачатку гутаркі ўдзельнікі коратка распавялі пра сябе, дзе вучыліся ў Беларусі, калі прыехалі ў Амэрыку і як працягнулі навучаньне ў ЗША. Усе трох ўжо мелі скончаную або нясконачаную вышэйшую адукацыю, адразу па прыезьдзе ў Амэрыку мусілі займацца рознымі некваліфікаванымі працамі не па спэцыяльнасьці.

Усе тры экспэрты прыйшлі да высновы, што шлях да посьпеху ў Амэрыцы ляжыць праз набыцьцё амэрыканскай адукацыі. Сп. Самсонаў скончыў Унівэрсытэт Дрэксэл, сп. Пашкевіч – Гарвардзкі ўнівэрсытэт, сп. Змачынскі – Бруклін-каледж. Прамоўцы падзяліліся сваім досьведам выбару навучальнай установы і спалучэньня вучобы з працаю, распавялі, чым займаюцца цяпер на сваіх працах пасьля сканчэньня адукацыі. Яны адказалі на пытаньні, як лепей падрыхтаваць рэзюмэ, што чакаць і як захоўвацца на інтэрвію на працы, ці спрабавалі прыкласьці свае веды ў Беларусі, ці адрозьніваліся яны ад іншых студэнтаў, што цяпер зрабілі б інакш і шмат іншых.

Да прамоўцаў далучыўся са сваім бачаньнем і досьведам працаўладкаваньня ў Амэрыцы сп. Зьміцер Левіт. Ён распавёў пра сябе і сваю працу ўзброенага ахоўніка і службу ў нацыянальнай гвардыі ЗША.

Затым перад прысутнымі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту і Партыі КХП-БНФ Зянон Пазьняк. Ён засяродзіўся на адной асноўнай падзеі – галадоўцы сп. Сяргея Каваленкі ў Беларусі. Гэты чалавек падняў на сьвята Хрыстовага нараджэньня, 7 студзеня 2010 г., бел-чырвона-белы сьцяг на сьвяточнай ялінцы ў цэнтры Віцебска. Ён быў арыштаваны Амонам, абвінавачаны ў хуліганстве, нецэнзурнай лаянцы і бойцы зь міліцыяй. Аб’явіў галодны страйк у зьняволеньні ў знак пратэсту. Падчас галадоўкі вага спала да 45 кг. Угаварылі абяцанкамі і падманам спыніць галадоўку. Цяпер, калі пабачыў якія хлусьлівыя мэтады ўжываюць лукашэнкаўскія “праваахоўнікі”, Каваленка пастанавіў галадаць усухую да канца. Галадоўка была спыненая гвалтам, працягваецца зьдзек. Але калі чалавек мае вялікую ідэю і ўсьведамляе, што за ёй стаіць – гэта надае сілы. Сьцяг – гэта тое, за што можна памерці. Сп. Пазьняк далей спыніўся на падзеях у Беларусі, на вызваленьні сп. А. Саньнікава і праекце пабудовы ў Беларусі Кітай-гораду для працаўнікоў з Кітаю, замест забясьпечаньня працай беларусаў.

Прысутныя сабралі на сходзе грашовыя ахвяраваньні для перадачы сям’і беларускага змагара Сяргея Каваленкі.

У разьдзеле Рознае адбыліся знаёмствы з гасьцямі і новымі сябрамі Згуртаваньня “Пагоня”.

***Віталь ЗАЙКА***

*Фатаздымкі з сайта belmov.org.*



*Удзельнікі красавіцкага сходу Згуртаваньня “Пагоня”.*

# Першамайская дэманстрацыя ў Нью-Ёрку

Дзеля цікавасьці аўтар гэтых радкоў быў прысутны на дэманстрацыі, якую 1-га траўня сёлета ладзілі рух “Акупуй Ўол Стрыт” (АЎС), прафсаюзы ды арганізацыі ў абарону нелегальных імігрантаў. Імпрэза рэклямавалася як грандыёзная падзея, што дасьць новы штуршок прытухшаму ў канцы мінулай восені руху АЎС. Налепкі й улёткі заклікалі да ўсеагульнага страйку супраць “1%” або “багатыроў-крывасмокаў”, што “рабуюць працаўнікоў – 99% насельніцтва”, і “скралі будучыню краіны”.

Пачынаючы з сотні чалавек у Браянт-парку, эпіцэнтар імпрэзы перасунуўся на Юніанскўэр, пляцоўку прафсаюзных і розных левых мітынгаў, традыцыя яшчэ ад першых гадоў 20-га стагодзьдзя. На Юніанскўэр прайшоў сапраўдны фэст антыамэрыканізму й нянавісьці да капіталізму. Поруч з тыповымі плякатамі “акупайцаў” накшталт: “Мы – 99%! ”, “Зьямо багацеяў”, “Захопім банкі”, “Злупім падаткі зь мільянэраў”, “Акупуем усё!”, было шмат плякатаў папулісцкага, сацыялістычна-камуністычнага зьместу.

Плякаты на ангельскай, гішпанскай, тагальскай і кітайскай мовах заклікалі зрынуць амэрыканскі імпэрыялізм, праклямавалі будову сацыялістычнай будучыні і прапагандавалі тэзу чорнага экстрэміста Малькольма Ікса “Няма капіталізму без расізму”. Нелегалы патрабавалі “Легалізацыі для ўсіх”. Старыя фацэты ў вайсковых строях з надпісам “Вэтэраны за Брэдлі Мэнінга” зьбіралі подпісы за вызваленьне, як яны яго завуць, “амэрыканскага героя”, які зьліў сотні тысяч сакрэтных дакумэнтаў парталу Ўікілікс. Хацелася спытаць, дзе тут стаяць “Вэтэраны за Аль-Каіду”, і зьбіраюць подпісы за аджыўленьне Бін-Лядэна.

Білі барабаны і тамтамы, грала музыка, сьпевакі у пярсьцёнках і фэцкіх строях, з дарагімі татуіроўкамі, выконвалі баляды пра цяжкую працоўную долю. Разьмяркоўваліся бясплатныя квіткі ў Чыкага на акцыі супраць маючай адбыцца там нарады НАТО. Перад паліцаямі з ачапленьня анархісты ў чорнай стылёвай адзёжы, з закручанымі ў хусткі тварамі, трымалі плякаты “Далоў Нью-Ёрскі паліцэйскі дэпартамэнт”, “Забійма сьвіньняў-паліцаяў”; і тут-жа: “Супрацоўнікі паліцыі, далучайцеся да нашага маршу”.

Амаль кожны з прысутных пратэстоўцаў не выпускаў з рук атрыбуты амэрыканскага капіталізму ў выглядзе айфонаў ці смартфонаў, размаўляючы па іх або пстрыкаючы фоты навакольнай імпрэзы. Прадстаўнікі Кампартыі ЗША, Партыі Сацыялізму і Вызваленьня ды яшчэ некалькіх падобных груповак раздавалі ўлёткі з запрасінамі на свае імпрэзы й прадавалі свае выданьні. Дзенідзе цалаваліся гома- і гэтэрасэксуальны пары. Сярод сьцягоў не было ніводнага амэрыканскага – дамінавалі чырвоныя сьцягі левых арганізацыяў, чырвона-чорныя анархісцкія, а таксама сьцягі Мэксікі, Вэнэсуэлы, Філіпінаў і Палестыны. Было відаць некалькі пірацкіх сьцягоў зь “вясёлым Роджарам”.




Надзвычай высокім быў працэнт моладзі з татуіроўкамі, што пакрывалі шыю, цалкам або часткова рукі й ногі, у крэатыўных модных вопратках – гіпстарская публіка з раёнаў Чэлсі й Грыніч-вілідж, студэнты з прыватнага Нью-Ёрк-унівэрсытэту, Новай Школы і Парсану, з Прат-інстытуту (альма-матар таксама і аўтара гэтых радкоў), і Школы Візуальных Мастацтваў – што ўсе месьцяцца ў наваколлі Юніян-скўэр.

Нарэшце пачаўся “марш на Ўол Стрыт”. Пратэстоўцы пайшлі па Брадўэі, трымаючы сьцягі й плякаты. Нелегалы-мэксіканцы, нянькі-філіпінкі, “расупоненыя” пуэртарыканцы і квецень амэрыканскай белай студэнцкай моладзі. Для апошніх хутчэй за ўсё йшлося найперш пра вясну, маладосьць, каханьне. Пра сьветлую будучыню, напэўна, зь любімым чалавекам, сваім домам, дзецьмі, машынамі й усімі іншымі атрыбутамі “амэрыканскай мары”.

Маршыруючыя выгукалі раз-пораз “Чые вуліцы? – Нашыя вуліцы!”, “Вось так выглядае сапраўдная дэмакратыя”, “Нас не спыніць, іншая будучыня – магчымая!” Нажаль, пры дзіўных самазьнішчальных тэндэнцыях сярод падрастаючай эліты амэрыканскага грамадзтва, іншая будучыня – сапраўды магчымая, але зусім ня тая, якую бачаць сёньня захопленыя ідэалістычнымі парываньнямі маладзёны. Так, як калісьці іхныя раўналеткі ў Расейскай імпэрыі напярэдадні 1917-га году або ў Кітаі ўзору 1949-га. Шмат каго з тых ідэалістаў зжэр молах “сацыяльнай рэвалюцыі”, каб на касьцях ахвяраў збудаваць файнае жыцьцё для купкі таталітарных сэктантаў, што сталі кіраваць лёсамі соцень мільёнаў. Хочацца спадзявацца, і для гэтага ёсьць дастаткова падставаў, што дзіцячая “лявацкая” хвароба амэрыканскага падрастаючага грамадзтва не пяройдзе ў хранічную фатальную стадыю, зь якой, нажаль, аж па сёньня ня могуць вылузацца шмат якія краіны, у тым ліку і нашая Беларусь.

А пратэстоўцы ў міжчасе дайшлі да Ніжняга Мангэтану і неўзабаве рассмакталіся па капіталістычных кавярнях-Старбаксах і ня менш зарыентаваных на грошы й прыбыткі барах і пабах.

Кіруючыся да станцыі сабўэю, спытаў абвешаную значкамі: “Далоў капіталізм”, “Банкі – народу”, “Зьнішчыць тлустых катоў Ўол Стрыту!” цётку-распаўсюдніцу газэты “Revolution”, каб дала мне сваю публікацыю. Тая запатрабавала 1 даляр. “Ого, даляр?! Сымболь капіталістычнай эксплюатацыі й прыніжэньня масаў?!” На маё пытаньне, чаму яна прытрымліваецца капіталістычных прынцыпаў, асуджаючы капіталізм, тая толькі зьдзіўлена паглядзела на мяне. І мне таксама было з чаго падзівіцца ў той прыемны травеньскі дзень, у сталіцы сьвету – сэрцы капіталізму.

***Віталь ЗАЙКА***

## СПАЧУВАНЬНІ

**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” выказвае шчырыя спачуваньні шаноўнаму Старшыні Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ Зянону ПАЗЬНЯКУ з нагоды цяжкой страты – сьмерці маці.**

## Шаноўнае спадарства!

Нагадваем, што збор твораў для літаратурнга альманаху “БЕЛАРУС” за 2012 год, друк якога заплянаваны на жнівень месяц сёлета, заканчваецца **31 траўня 2012 году**.

Умовы застаюцца такімі-ж як у папярэднія гады: зьмясьціць свае творы ў выданьні могуць аўтары, хто піша па-беларуску ў самых розных літаратурных жанрах. Адзіная ўмова – аўтары сёньня павінны жыць па-за межамі Беларусі.

Творы найлепш дасылаць у рэдакцыю электронную поштаю на адрас: ***zamova@e-krama.com*** У выключных выпадках, калі аўтары ня маюць доступу да сусьветнага сеціва, творы можна даслаць поштаю запісанымі на CD ці DVD альбо надрукаванымі на паперы на адрас рэдакцыі:

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735 USA***

Тэксты пажадана пісаць тарашкевіцай. Творы напісаныя наркамаўкай, у альманаху будуць надрукаваныя тарашкевіцай.

Кожнаму, хто вырашыць даслаць творы для альманаху, пажадана таксама даслаць свой фатаздымак і кароткую аўтабіяграфію і, калі захочуць, дадатковую інфармацыю пра сябе, якую яны хацелі-б паведаміць сваім чытачам.

Пасьля выхаду альманаху ў сьвет кожны аўтар атрымае адзін асобнік бескаштоўна. Аўтары пры жаданьні змогуць замовіць дадатковую колькасьць асобнікаў па сабекошту, які будзе паведамлены ім пазьней.

Ганарараў аўтарам рэдакцыя, нажаль, выплочваць ня можа, бо ня ёсьць камэрцыйнаю ўстановаю, а існуе дзякуючы падтрымцы ахвярадаўцаў і чытачоў.

З пытаньнямі кантактуйце рэдакцыю. Жадаем посьпехаў!

Папярэдняя замова разам з дасылкаю ў межах ЗША каштуе **$12,** Вялікабрытанію і Канаду **- $17,** усе іншыя краіны **- $18.**

Жадаючыя могуць замовіць нумары за папярэднія гады. Зрабіць гэта можна, як па пошце, так і наведаўшы старонку **www.e-krama.com** і зрабіўшы аплату крэдытнаю ці банкаўскаю карткаю альбо праз рахунак Paypal.
















### Уплаты ў арганізацыю
Складкі й ахвяраваньні:

- С. Асаёнак ..................... 50
- А. Варабей ..................... 50
- А. Гумерава ..................... 50
- С. Кананові ..................... 50
- Т. Кропатава ..................... 50
- У. Мажэйка ..................... 50
- К. Машоха ..................... 50
- Н. Хоміч ..................... 50
- М. Цітова ..................... 50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя **К. Ермакоў, Н. Каланей, Г. Калганава, П. Марук, Н. Раташ, М. Федасеева** паведаміце, калі ласка, рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 12 траўня 2012 году** на Мангэтане.

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.baza-belarus.org***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

- С. Асаёнак ..................... 30
- В. Балашчанка ..................... 30
- А. Варабей ..................... 30
- С. Кананові ..................... 30
- Т. Кропатава ..................... 30
- Н. Хоміч ..................... 30
- М. Цітова ..................... 30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакай **“Весткі”** выпісвайце на імя*
***Valentina Balashchenko.***

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*